Przegląd Wileński Lizakowskiego 21-6

Opłata pocztowa uiszczona ryczałtem

Вільня, 10 чэрвеня 1933.

№ 12.

Год 1-шы

# РОДНЫ КРАЙ

ОРГАН ТАВАРЫСТВА БЕЛАРУСКАЕ АСЬВЕТЫ

выходзіць двойчы ў месяц.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі:
Мэтрополітальны пляц 3 кв. 12.
Прыймо інтэрэсантаў:
у Сэкрэтар'яце ТБА—у будні ад 10—12 г.
у Рэдакцыі „ ад 12— 2 г.

Падпіска з дастаўкай поштай:
За год 3 зл. 50 гр.; за паўгоду—2 зл.
за 3 месяцы — 1 зл. 20 гр.;
за 1 месяц — 40 грош.

Цана асобнага нумару 20 гр.

## Навагрудзкая Дзяржаўная Беларуская Гімназія

(Філія Дзяржаўнае гімназіі імя А. Міцкевіча ў Навагрудку)

тыпу матэматычна-прыродазнаўчага.

## Віленская Дзяржаўная Беларуская Гімназія

(Філія Дзяржаўнае гімназіі імя Ю. Славацкага ў Вільні)

тыпу гуманістычнага.

### Гімназіі будуць мець у 1933-34 школьным годзе I (б. III-цю), IV, V, VI, VII, VIII клясы.

### Варункі прыйма у гімназіі наступныя:

У першую зрэформаваную клясу прыймаюцца:

А) Дзеці, якія маюць пасьведчаньне аб сканчэньні 6 аддзелаў пачаткавае школы або II клясы прыватнае гімназіі з няпоўнымі правамі дзяржаўных гімназіяў:

В) Дзеці, якія гэтых пасьведчаньняў ня маюць.

Кандыдаты з групы „А“ здаюць уступны экзамен з польскае мовы, беларускае мовы, прыроды і арытметыкі з геомэтрыяй па праграме 6 аддзелаў сяміклясовае пачаткавае школы або I і II клясы гімназіі — залежна ад таго, з якой школы кандыдат паступае. Пры экзамене з польскае мовы правераецца прыгатаваньне з гісторыі, а пры экзамене з прыроды — прыгатаваньне з геаграфіі.

Скончыўшыя 6 аддзелаў 3-ох, 4-ох і 5-ёх клясовых пачаткавых школаў апрача таго здаюць экзамен з нямецкае мовы.

Кандыдаты з групы „В“ здаюць поўны экзамен з усіх прадметаў па тэй-ж, што першая група, праграме.

Прыймо ў клясы IV — VIII адбываецца на падставе экзаменаў па праграме дзяржаўных гімназіяў матэматычна-прыродазнаўчага тыпу (ў Навагрудзкай гіімназіі) і гуманістычнага тыпу (ў Віленскай гімназіі):

1) З усіх прадметаў — для кандыдатаў, якія ня маюць школьных пасьведчаньняў аб сканчэньні папярэдняе клясы дзяржаўнае або прыватнае, з поўнымі правамі, дзяржаўных гімназіі;

2) з розьніцы праграмы для тых, якія маюць пасьведчаньне аб сканчэньні ў 1932—33 шк. годзе папярэдняе клясы дзяржаўнае або прыватнае з поўнымі правамі дзяржаўных гімназіі інакшага тыпу;

3) толькі з беларускае мовы—для кандыдатаў з дзяржаўных ці поўнапраўных прыватных гімназіяў.

Да экзамену ў І-ю клясу дапушчаюцца кандыдаты, якія маюць ня меней 12 і ня болей 16 гадоў, у вышэйшыя клясы граніцы веку ўзрастаюць адпаведна на адзін год.

Для дапушчэньня да экзамену ў VII і VIII клясы вымагаецца дазвол Віленскага Куратарыюму.

Да просьбаў належыць абавязкава далучыць:

1) мэтрыку нараджэньня; 2) апошняе школьнае пасьведчаньне; 3) пасьведчаньне доктара аб паўторным прышчэпе воспы; 4) пасьведчаньне доктара аб здароў'і.

Экзамены адбудуцца вясною — ад 16 да 21 чэрвеня 1933 году і ўвосені — ад 20 да 25 жніўня 1933 году.

# Даць адпор шкоднікам.

Кожын год — з канцом школьнае навукі — проці беларускіх гімназіяў пачынаецца атака з некалькіх бакоў. З аднаго боку ліквідацыі беларускіх гімназіяў дамагаюцца нацыяналістычныя элементы сярод „пануючае нацыі“, якія лепш, чым хто іншы, разумеюць, што гэтыя гімназіі, узгадоўваючы будучых беларускіх інтэлігентаў, гэтым самым дапамагаюць беларускаму народу бараніцца ад дэнацыяналізацыі і поўнага зьніштажэньня. Дык нас ня дзівіць заўзятасьць проці беларускіх гімназіяў з боку тых, хто шчыра і адкрыта заяўляе, што хоча „праглынуць“ жыўцом беларусаў. Але — апрача гэтых вонкавых ворагаў — да зруйнаваньня нашых апошніх ужо дзьвюх сярэдніх школ імкнуцца і ворагі ўнутраныя — людзі, якія па свайму паходжаньню, па сваей крыві ёсьць запраўдныя беларусы, але — дзеля пэўных мяркаваньняў сваіх — фактычна сталіся шкоднікамі для Беларускага народу. Перад імі хочам сяньня перасьцерагчы бацькоў, якія — праз нясьведамасьць — маглі-б даць ім послух.

„Падрыўную“ работу ў беларускіх гімназіях здаўна ўжо распачала камуністычная партыя. Камуністы разумеюць, што беларускія працоўныя масы, маючы сваіх нацыянальных павадыроў, побач з імкненьнямі соцыяльнага характару заўсёды будуць выяўляць і імкненьні нацыянальныя, перадусім— імкненьне да таго, каб захаваць сваю нацыянальную душу, сваю мову й культуру ды быць гаспадарамі на сваёй зямлі. Камуністычная партыя — ад часу дыктатуры Сталіна — рашуча змагаецца з беларускім нацыянальным рухам ня толькі ў БССР, але й у Заходняй Беларусі, а таму й паставіла сабе мэтай недапушчэньне да ўзгадоўваньня кадраў маладое, сьведамае нацыянальна, беларускае інтэлігенцыі. Партыя, ашуківаючы школьнікаў і ілжыва абяцуючы ім, што ўсіх іх перавязуць у Менск і тамака будуць дарма вучыць, справакавала, як ведама, рад выступленьняў вучняў, за якія яны былі звольнены з гімназіяў школьнымі ўладамі і пазбаўлены магчымасьці атрымаць школьную навуку,—бо-ж, зразумела, ніхто і ня думаў вывозіць іх у Менск дзеля бясплатнае навукі... Адначасна, некаторыя бацькі, баючыся падобнага лёсу для сваіх дзяцей, пачалі пасылаць гэтых дзяцей не ў беларускія, а ў польскія або расейскія гімназіі, аддаючы гэтак нашу нацыянальную сілу, нашу будучыню — моладзь на службу чужым народам... У рэзультаце колькігадовае „працы“ камуністаў з лічбы існаваўшых у нас чатырох гімназіяў былі зачынены ўладамі дзьве, і цяпер — на два з гакам мілёны беларусаў пад Польшчай — мы маем усяго толькі дзьве гімназіі, значыць — па адной гімназіі на мільён насяленьня!

Але ў апошнія гады дзеяльнасьць камуністычнае партыі, наскрозь праедзенае правакацыяй і таму лёгка ліквідаванае ўладамі, вельмі паслабела. Паслабела і падрыўная праца камуністаў у беларускіх гімназіях. За тое-ж выступілі на сцэну—ведама, у імя сваіх уласных мяркаваньняў,—павадыры такзванае „беларускае“ Хадэцыі.

Трудна гаварыць аб „ідэолёгіі“ Хадэцыі. Сваю праграму хадэкі жыўцом сьпісалі з праграмы Грамады, а павадыры іх вялі з Грамадой самую непрымірымую барацьбу, у якой — ня маючы ніякае ўласнае сілы — выкарыстывалі польскую дзяржаўную ўладу, даносячы апошняй на паасобных грамадаўскіх дзеячоў і памагаючы гэтак да зьліквідаваньня Грамады адміністрацыяй. Далейшая-ж дзеяльнасьць гэнае партыі паказала, што яна выразна служыць небеларускім ідэалам: у меру таго, як слабелі атакі на беларускія гімназіі з боку камуністаў, барацьбу з беларускімі школамі пераняла Хадэцыя.

Пачалося з „выжываньня“ з гімназіяў старых, заслужаных белерускіх вучыцялёў, узгадоўваўшых моладзь у нацыянальным духу, — і ізноў хадэкі карысталіся старым, выпрабаваным у барацьбе з Грамадой спосабам: ілжывымі даносамі школьным уладам. Павадыр Хадэцыі, кс. Станкевіч, падаў руку ведамаму „дэфэнзыўнаму“ дзеячу Акіньчыцу, і яны супольнымі сіламі „ачысьцілі“ Віленскую Беларускую Гімназію ад непажаданых для Хадэцыі (і... дэфэнзывы!) вучыцялёў. На пачатку 1931-32 школьнага году школьныя ўлады выдалілі чатырох вучыцялёў, у тым ліку асабліва ненавіснага для хадэкаў гр. Луцкевіча, што „Крыніца“ вельмі горача прывітала. А тады распачаўся другі акт трагедыі беларускіх гімназіяў: павадыр Хадэцыі, кс. Станкевіч, пачаў рабіць усе захады, каб школьныя ўлады не пакінулі надалей гімназіяў у руках грамадзянства. І акцыя гэтая яму ўдалася: абедзьве астаўшыяся яшчэ жывымі гімназіі — Віленская і Навагрудзкая — з пачаткам 1932-33 школьнага году былі пераняты Дзяржавай і ператвораны ў філіі польскіх дзяржаўных гімназіяў—з захаваньнем, праўда, усіх правоў дзяржаўных школаў.

Блізу ўсе вучыцялі—разам з кс. Станкевічам — пасьля „упаньствовеня“ асталіся на сваіх мейсцах, — ведама, апрача звольненых у папярэднім годзе. Здавалася-б, што Хадэцыя павінна-б была ўжо супакоіцца: яна дапяла свайго. І кс. Станкевіч, які ў сваёй „Крыніцы“ так рашуча (і дадамо: слушна!) граміў усялякі „утраквізм“ у школах, мог ужо бяз ніякіх перашкод з боку школьнае ўлады праводзіць акурат гэны самы „утраквізм“ на лекцыях рэлігіі для каталікоў, цэлымі гадзінамі прымушаючы вучняў голасна чытаць польскія рэлігійныя кніжкі, бо-ж хадэцыя, хоць павадыр яе мае ўласную друкарню дый патрэбныя на гэта грошы, і не падумала аб тым, каб даць вучням-беларусам падручнікі каталіцкае рэлігіі ў беларускай мове.

Але сталася рэч неспадзяваная: школьныя ўлады, звальняючы сёлета восем вучыцялёў беларускае гімназіі ў Вільні, зволь-

нілі чамусьці такжа і кс. Станкевіча, найбольш лёяльнага сярод іх да польшчыны. Дык у выніку гэтага распачаўся ўжо адкрыты, хоць нічым неабаснаваны, паход процi віленскае беларускае гімназіі, з'арганізаваны кс. Станкевічам на страніцах ягонае „Крыніцы". Абліваючы гразёй гімназію і яе настаўнікаў, з якіх „Крыніца" была зусім здаволена, пакуль „падкармліваўся" з польскага дзяржаўнага скарбу кс. Станкевіч, — той жа кс. Станкевіч мае адвагу пісаць, быццам гімназія „сталася чужой беларусам" ад самага яе „упаньствовення", што яна ўзгадоўвае моладзь на „Białorusinów-Polaków" і г. д. А вывад з выступленьня кс. Станкевіча напрашываецца сам сабой: значыць, беларусы не павінны пасылаць дзяцей у беларускія гімназіі, а — у польскія ці расейскія.

Іліжываcьць закідаў кс. Станкевіча беларускай гімназіі — зусім яўная: ён-жа „пабачыў" нібы-то „небеларускасьць" гімназіі толькі цяпер, калі апынуўся сам за яе сьценамі. А трэба адзначыць, што якраз кс. Станкевіч, маючы дзела толькі з малой жменяй вучняў-каталікоў, якім выкладаў рэлігію напалову папольску, ня мог аказваць ніякага ўзгадаваўчага ўплыву на праваслаўную большасьць вучняў, і з выхадам яго з гімназіі, пэўне-ж, ніякае зьмены ў узгадаваньні моладзі ня станецца.

Мы пазволілі сабе пасьвяціць гэтай запраўды ж балючай для кожнага сьведамага беларуса справе больш месца зусім не з увагі на асобу кс. Станкевіча, даволі ўжо ведамага нашаму грамадзянству, але з увагі на тое, што кс. Станкевіч распачаў свой новы паход процi гімназіі акурат напярэдадні новага школьнага году, калі бацькі рыхтуюцца ўжо да пасылкі сваіх дзетак у сярэднія школы і мусяць зрабіць той ці іншы выбар. Ясна што імкненьнем Хадэцыі ёсьць спыненьне штогоднага прытоку новых інтэлігенцкіх сіл беларускіх, новых творцоў беларускіх культурных цэннасьцяў і барацьбітоў за беларускую справу, якіх даюць беларускія гімназіі. І гэта рэч зразумелая: бо нарастаючая беларуская інтэлігенцыя рашуча адварачваецца ад Хадэцыі і яе павадыра, які служыць „чужым багом", бо гэтая інтэлігенцыя шукае „ўласных багоў" ды ўласных шляхоў дзеля служэньня Беларускаму народу. Такая інтэлігенцыя і гімназіі, якія яе ўзгадоўваюць, для Хадэцыі непатрэбныя.

Але яны якраз патрэбныя Беларускаму народу. Толькі праз родную школу мы здолеем узгадаваць нашу нацыянальную інтэлігенцыю, шчыра адданую беларускай справе, вольную ад чужацкіх уплываў.

**Дык бацькі: памятайце аб сваім сьвятым абавязку і аддавайце дзетак сваіх у навуку ў беларускія гімназіі, а не ў чужацкія! А шкоднікам дайце належны адпор!**

# Гаспадарчы аддзел.

## Нішчэньне ліхазельля.

Аб шкоднасьці ліхазельля для культурных расьлінаў ведае кожны гаспадар, хоць і не прадстаўляе сабе гэтую шкоднасьць у такой вялікай меры, як гэта ёсьць у запраўднасьці. Што-ж тычыцца спосабаў барацьбы з ліхазельлем, то рэдка каторы гаспадар патрапіць бароцца з ім належным чынам. Часта здараецца, што гаспадар, замест зьнішчэньня, толькі памнажае ліхазельле. Інады, у бегу барацьбы з засьмечваючай расьлін-

# „Гадавік Беларускага Навуковага Таварыства".

*Кніжка І. Вільня—1933 г.*

Запраўдным культурным сьвятам у бедным наагул культурай жыцьці нашае Заходняе Беларусі зьяўляецца выхад у сьвет першае кніжкі **„Гадавіка Беларускага Навуковага Таварыства ў Вільні"**.

Кніжка выдана па-мастацку. Арыгінальная вокладка работы ведамага беларускага мастака Сергіевіча, добрая папера, акуратны друк, словам — увесь вонкавы выгляд выданьня адразу робіць добрае ўражэньне.

Вонкаваму выгляду цалком адпавядае і ўнутраны зьмест кніжкі.

Першы „Гадавік" Б. Н. Т-ва мае зусім асаблівае значэньне.—Гэта — ня толькі першая і ўдалая спроба вялікшага выданьня прац сяброў Т-ва: гэта—выданьне, зьвязанае з дзьвюма важнымі—кожная па свойму—юбілейнымі датамі ў жыцьці і ўзросьце культурна - нацыянальнае сьведамасьці нашага грамадзянства наагул. У бягучым годзе прыпалі 15-тыя ўгодкі існаваньня Бел. Навуковага Т-ва; у тым жа годзе мінула 300 гадоў ад дня сьмерці Вялікага Канцлера Льва Сапегі, адыграўшага ў гісторыі беларускага народу, яго культуры і дзяржаўнасьці запраўды вялікую і дадатную ролю.

Зыйшоўшыся ў часе, даты гэтыя зьвязаны, можна сказаць, і ўнутранай сувязяй для сьведамага беларуса: бо ж толькі дасьпеўшая за паўтара дзесятка апошніх, поўных глыбокага гістарычнага зьместу, гадоў навуковае думкі і працы духовая сьведамасьць беларускага грамадзянства здолела зразумець цалком усё значэньне сваей мінуўшчыны. А якраз „залатая пара" гэтае мінуўшчыны з асаблівай поўняй красы і сілы выяўляецца ў асобе Вялікага Канцлера, аднаго з найвялікшых творцоў і абаронцаў былое культурнае і дзяржаўнае велічы беларускага народу...

—

Першы артыкул—даклад старшыні ўраду Белар. Навук. Т-ва, А. Луцкевіча — дае агляд падзей і працы Т-ва за мінулае 15-лецьце — ад часу заложэньня яго з пачыну

насьцю, поле перапрацоўваецца так, што робіцца неадпаведным для будучых пасеваў. На гэта трэба зьвярнуць увагу асабліва пры пасевах азіміны. Найбольш зьяўляецца на палёх ліхазельля пры наступных умовах:

1) калі вядзецца неправідловая апрацоўка поля;

2) калі не зьвяртаецца належным чынам увага на чыстату насеньня;

3) калі не вядзецца беспасрэдная барацьба з імі.

З тых усіх спосабаў, якія мы ўжываем пры апрацоўцы поля, найбольш уплывае на нішчэньне пустазельля—падворваньне і пасьля ідучае за ім баранаваньне. Падворваньне— гэта плыткае заворваньне іржышча, якое трэба рабіць зараз жа пасьля збору гаспадарчае расьліны.

Калі іржышча заворваецца, разам з ім заворваецца і шмат насеньня ліхазельля. Пасьля воркі зараз-жа, не чакаючы, поле барануецца і, калі няма надзеі на хуткі дождж, то трэба поле прыкатаць вальцам. Заворанае насеньне пустазельля, апынуўшыся ў вільготнай зямлі, хутка прарасьце, пасьля чаго яго лёгка можна зьнішчыць звычайным баранаваньнем.

Звычайна падворваньне робіцца заразжа пасьля жніў. Пры гэтым ня трэба забывацца на тое, што падворваньне павінна быць на першым мейсцы і там, дзе ёсьць адлог або навіна, або й дзе мае быць чорны папар.

Ня меншае значэньне для барацьбы з ліхазельлем мае адпаведная і своячасная міжрадковая апрацоўка. Належная міжрадковая апрацоўка ня толькі спрыяе ачышчэньню поля ад ліхазельля, ня толькі ратуе ад тых шкодаў, якія чыніць ліхазельле культурнай расьліне, але ў вялікай меры спрычыняецца яшчэ да забясьпечаньня культурнае расьліны вільгацю і спажыўнымі складнікамі.

Вельмі чулыя на шкадлівы ўплыў ліхазельля буракі. Дзеля гэтага трэба як найраней пачынаць палоць і матыкаваць. Насеньне буракоў ляжыць даўжэйшы час, пакуль узыйдзе, а дзеля гэтага часта бывае патрэбным нішчыць між радкамі ліхазельле на'т тагды, калі буракі яшчэ і ня ўзыйшлі. Дзеля гэтага бывае карысным разам з насеньнем буракоў высяваць трошкі аўсу або ячменю, якія хутка ўсходзяць і гэтым добра паказваюць радкі, дзе засеяны буракі. На зьвязьлейшых глебах радзіцца высяваць заместа аўсу або ячменю разам з буракамі лубін. Прарастаючы, ён добра праламывае зьявіўшуюся на версе глебы скарынку, дзякуючы чаму і буракі з большаю лёгкасьцю выдабываюцца наверх. Ня будзе лішнім адзначыць на гэтым мейсцы, што ня толькі своячаснае палоцьце вельмі спрыяе для росту буракоў, але таксама вялікае значэньне для добрага іх росту мае і раньняе прарываньне іх. Як толькі буракі выпусьцяць некалькі лісточкаў, трэба зараз жа прарываць іх. Прарываньне трэба рабіць асьцярожна і так, каб расьлінкі ў радку знаходзіліся на аднолькавай адлегласьці адна ад другой; трэба старацца пакідаць у радкох найсільнейшыя расьлінкі, а там, дзе іх не хапае, трэба дасадзіць.

Матыкаваньне між радкамі адбываецца некалькі разоў за сэзон, пакуль расьліна разрасьцецца так, што сама ўжо зможа добра бароцца з ліхазельлем, заценяючы яго. Яшчэ адну рэч тут трэба адцеміць,—матыкаваньне трэба рабіць не тагды, як ліхазельле зарунее між радкамі, але як яно толькі-што

---

сьветлае памяці Івана Луцкевіча ў студні 1918 г.

Другі артыкул, перадавы ў кніжцы, прысьвечаны якраз характэрыстыцы асобы і дзеяльнасьці Вялікага Канцлера Льва Сапегі. Артыкул маладога нашага дасьледчыка, М. Шкелёнка, напісаны ня толькі з усей павагай навуковае працы, але прасякнены жывым пачуцьцём, гарачай сымпатыяй да асобы гэтага слаўнага дзеяча нашае мінуўшчыны. І гэта робіць працу аўтара ня толькі цэннай з пагляду агульна-навуковага, але карыснай дзеля нацыянальна - грамадзкага ўзгадаваньня нашага народу. Бо-ж толькі той народ не памрэ, як народ, каторы памятае, шануе і кахае сваю мінуўшчыну...

Адзін з найбольш сьветлых духам і шырокіх душой прадстаўнікоў каталіцкага духавенства, беларус з крыві, косьці і духа, кс. Ул. Талочка, зрэфэраваў вельмі цікаўную „рэляцыю“ ксяндза-базыльяніца Пётры Камінскага, які вёў на рубяжы XVII і XVIII вв. вострую барацьбу проці тых дзеячоў вуніі, каторыя па сутнасьці хацелі зрабіць яе мастом у польскае лаціцтва.

Наступны артыкул маладога дасьледчыка, д-ра Ільяшэвіча, вучыцеля Віл. Белар. Гімназіі, дае агляд адміністрацыйнай, царкоўнай і соцыяльнай (сялянскай) гаспадаркі расейскага ўраду на Беларускіх землях — у першыя часы пасьля падзелаў Польшчы і далучэньня Беларусі да Расеі.

Латвійскі дасьледчык Б. Брэжго, колішні супрацоўнік Сапунова, у артыкуле „Замкі Віцебшчыны“ даў апісаньне 25 паасобных ваенных умацаваньняў — крэпасьцяў і замкаў—на прасторы былае Віцебскае губ. Артыкул ярка рысуе перад вачыма чытача тыя ваенныя шляхі і спосабы, якімі ў мінуўшчыне баранілася наша Беларусь, ляжучы паміж двума магутнымі, варожымі да яе самастойнасьці, сьветамі—Усходнім і Заходнім.

Д-р Ян Станкевіч дае ў сваім цікаўным артыкуле начырк характэрнага сужыцьця нашых краёвых татараў-мусульман, палоньнікаў ці колёністаў, з беларускім народам. Як ведама, у выніку гэтага мірнага сужыцьця паўстала цікаўная літэратура — рэлігійна-мусульманская па зьместу, арабская па пісьму (альфабэту), але беларуская па мове. Дакладна разабраўшыся ў справе пры дапамозе спэцыялістаў - арабаведаў, аўтар, сам

пачынае выдабывацца з зямлі наверх.

Бульбу, пасьля таго, як яна ўзыйдзе, спачатку барануюць, а пасьля раз ці два абганяюць спэцыяльным плужком ці сошкаю. У малых гаспадарках замест баранаваньня карысьнейшае міжрадковае матыкаваньне.

У густых пасевах, як ячмень, авёс, калі там ёсьць шмат небясьпечнага пустазельля, як палявая рэдзька (агніха), — трэба таксама баранаваць. Барана павінна быць вострая і лёгкая. Пашкоджаная баранаваньнем збажовая расьліна пасьля лёгка папраўляецца, але затое агніха, гарчыца, калі яны раз вырваны,—гінуць. Найадпаведнейшы час для такога баранаваньня будзе тагды, калі ў агніхі ці гарчыцы зьяўляюцца, за семядолямі, першыя лісточкі. Баранаваць трэба ў сухую пару і сонечны дзень.

Баранаваньне карысна ня толькі затым, што нішчыць ліхазельле, але й затым, што разам з гэтым разрыхляецца скарынка, якая часта зьяўляецца на паверхні зьвязлых глебаў.

Ня будзем тут шмат гаварыць аб тым, што зярно для сяўбы павінна быць чыстае, бо-ж трудна змагацца з ліхазельлем, калі мы самы будзем яго сеяць. Ручным спосабам амаль-што немагчыма дакладна ачысьціць насеньне, а дзеля гэтага трэба прыняць за правіла—прапушчаць перад сяўбой насеньне праз арфу (млынок) і трыер.

Барацьба з ліхазельлем павінна быць як найэнэргічнейшая. Калі нам не ўдаецца адразу зьнішчыць пустазельле, то трэба пастарацца, каб пустазельле не магло высемяніцца. Гэта мы можам дасягнуць частым вырываньнем, або скошываньнем яго.

У апошнія часы пашырыўся новы спосаб барацьбы з ліхазельлем,— гэта ўжываньне дробна зьмеленага азатняку ці каініту, або і абодвых разам. Гэтыя сродкі важны тым, што яны адначасна зьяўляюцца і ўгнаеньнем. Азатняк мае ў сабе грызучую вапну і дзякуючы гэтаму ён, пасыпаны ў вялікіх колькасьцях, забойча дзее на расьліну. І вось, калі яго рассыпаць на збажовым пасеве, то ён збажыне не прынясе вялікай шкоды, бо мала яго на ёй затрымаецца, але затое вынішчае ліхазельле, бо на шырокіх яго лісьцях шмат затрымліваецца азатняку. На гэктар поля рассыпаецца каля 100—120 кг. азатняку. Уплыў каініту на расьлінасьць палягае ў тым, што ён убірае ў сябе шмат вільгаці. І калі шмат пасыпаць яго на расьліну ды яшчэ ў сонешную пагоду, то расьліна гіне ад нястачы вады. Пры расьсейваньні каініту, як і азатняку, пустазельле шмат затрымлівае яго на сваіх шырокіх лісьцях, дзякуючы чаму падлягае яго руйнуючаму дзеяньню, ня вытрымлівае і гіне. Дробна разьмеленага каініту ідзе на гэктар каля 500 кіляграмаў. Абодва гэтыя сродкі лепш за ўсё рассыпаць на пасевах, калі яшчэ ня згінула раса, бо азотная, ці каінітавая мука лепш затрымліваецца на вогкіх лістох, чым на сухіх.

А. С.

---

**Рыначныя цэны ў Вільні.** 8.VI. Яйкі капа 3 зл 20 гр.. Масла 1 сорт кілягр. 2 зл. 60 грош., гуртом 2 зл. 40 гр., 2-го сорту 2 зл. Сала сьвежае 1 зл. 70—1 зл. 90 гр. Сьмятана літр 80 гр. Жыта кілягр. 20 гр. Авёс — 13 гр. Ячмень — 17 гр.

---

філёлёг, высьвятляе значэньне гэтае дзіўнае арабскае транскрыпцыі беларускае мовы для ўсталеньня яе жывое гучнасьці ў тыя даўныя часы, калі гэтая жывая мова была, так сказаць, прыдушана на пісьме чужым (царкоўна-славянскім) правапісам „эдукаванае“ літэратурнае мовы. Дасканалы па зьместу артыкул псуе, як заўсёды, вылучная, асабістая „мова“ аўтара, якой ніхто, апроч яго аднаго, не гавора й ня піша, але якую ён, з упорам, годным лепшае мэты і долі, „прапагуе“, дасягаючы, зразумела-ж, на шчасьце, толькі адваротных рэзультатаў...

Два артыкулы літэратурнага зьместу даў Антон Навіна (А. Луцкевіч). Першы артыкул—„Галоўныя кірункі ў беларускай поэзіі“ — дае сьцісьнены, але поўназьместны агляд беларускага поэтычнага творства ад Яна Баршчэўскага да нашых дзён. Пагляды аўтара, аднаго з найлепшых знаўцаў нашае літэратуры, яго тонкія характэрыстыкі і трафныя ацэнкі паасобных тварцоў, цэлых эпохаў і напрамкаў пераконываюць сілай сваей праўды, уваходзячы, так сказаць, у агульна прызнаныя каноны нашае гісторыі літэратуры. Нажаль, недахоп матэрыялу не дае аўтару магчымасьці даць з належнай поўняй абраз сучаснага поэтычнага творства на нашым Усходзе.

Асабліва трэба адзначыць агульную думку аўтара аб тым, што беларуская поэзія спарадзілася не з нейкіх „уплываў“ ці літэратурных „напрамкаў“, але вырасла на адвечным карані беларускага народнага творства — з жыцьця і быту народнага. Гэтай думкай ён пачынае свой артыкул, ёй-жа і канчае свае разважаньні, слушна кажучы, што—дзеля гэтага—і цяпер, ня гледзячы на тую „кітайскую сьцяну“, якой адгароджана Заходняя Беларусь ад Усходняе, літэтатурна-творчае жыцьцё абедзьвюх часьцін нацыянальна-адзінае Беларусі прадстаўляе сабой бясспрэчную суцэльнасьць у сваей запраўднай аснове. „І як супольным і адзіным было мінулае беларускае літэратуры, так супольнай і адзінай ёсьць яе цяперашчына, так супольнай і адзінай мусіць быць і яе будучыня“. Так заключае аўтар свой артыкул. Думка — жывая, трафная і плодная.

Другі артыкул А. Навіны дае цікаўныя дадзеныя „З недрукаванае спадчыны па М. Багдановічу“—выдзержкі з яго перапіскі

# З Беларускага жыцьця.

## У Вільні.

**Ушанаваньне памяці Ів. Луцкевіча.** Ведамы віленскі скульптор Р. Яхімовіч ужо закончыў работу бюсту Ів. Луцкевіча, каторы ўжо перавезены ў Беларускі Музэй ім. Ів. Луцкевіча і будзе ўрачыста адкрыты ў нядзелю, 18 чэрвеня ў 12 гадз. дня. З прычыны цеснаты му: эйнага памяшчэньня Музэйная Рада рассылае абмежаную лічбу запросінаў сябром Бел. Нав. Т ва і іншых арганізацыяў, блізка стаяўшых да Ів. Луцкевіча.

**Зьніжэньне цаны „Гадавіка“ Б. Нав. Т-ва.** Урад Беларускага Навуковага Т-ва на апошнім паседжаньні сваім пастанавіў зьменшыць прадажную цану „Гадавіка“ з 12 зл. да 8 зл. Сябры Бел. Нав. Т-ва, а таксама іншых беларускіх культурных устаноў і арганізацыяў могуць карыстацца 50% зьніжкай, калі будуць купляць „Гадавік“ беспасярэдна ў Таварыстве (Вострабрамская вул. 9).

**Байкот кс. А. Станкевічу.** Як мы даведаліся, у адказ на запраўды :к агіднае выступленьне кс. Станкевіча ў „Крыніцы“ проці ўсіх, хто працуе на культурнай ніве, а ў першы чарод проці беларускае Гімназіі ў Вільні і ўсяго пэдагогічнага пэрсонэлю яе,— Пэдагогічная Рада Гімназіі ў поўным складзе яе (апрача кс. Станкевіча, які адмовіўся прыйсьці і глянуць у вочы пакрыўджаным калегам) пастанавіла аднагалосна аб'явіць кс. Станкевічу таварыскі байкот.

**Яшчэ адна газэта.** У Вільні пачаў выходзіць новы беларускі часопіс п. н. „Беларуская Газэта“. Першы нумар выявіў яўна варожыя адносіны газэты да беларускага незалежніцкага ідэалу і імкненьне будзіць у беларускіх масах недавер да беларускае інтэлігенцыі. Часопіс мае выходзіць двойчы ў месяц.

## На правінцыі.

**Як паны войты „памагаюць“ беларускай асьвеце.** ТБА распачала працу ў кірунку арганізаваньня па вёсках бібліатэк-чытальняў. Аб кожнай такой бібліатэцы трэба падаваць заяву ў павятовае староства, і апошняе вымагае (хоць таго ў законе не прадбачыцца!) пасьведчаньня ў гміне ці ў нотарыюса подпісу кіраўніка бібліатэкі. Нотарыюсаў на вёсцы няма, дык прыходзіцца зварачацца да гміны. І тут паны войты, прадстаўнікі „самаўраду“ насяленьня — блізу чыста беларускага, паказваюць свае яўна варожыя адносіны і да гэтага насяленьня, і да яго імкненьня да сьвятла. З цэлага раду гмін (Даўгінаў, Празарокі і інш.) сяляне жаляцца, што паны войты адмаўляюцца сьведчыць подпісы грамадзян гэтых гмін, калі тыя хочуць закласьці беларускую бібліатэку-чытальню.

Рэч зразумелая: за спагаданьне беларускай асьветнай працы спадзявацца „зьверху“ пахвал і нагародаў паном войтам ня прыходзіцца, а на тое, як да іх будзе аднасіцца беларускае насяленьне, паны войты не зважаюць.

---

і пару нязнаных вершаў.

Ведамы культурна-грамадзкі дзеяч і выдатны беларускі пэдагог матэматык, Р. Астроўскі, даў артыкул тэорэтычна-мэтодычнага зьместу, разглядзіўшы лёгічны зьмест тэрмінаў „лічба“ і „лік“.

Урэшце дырэктар Беларускага музэю імя Ів. Луцкевіча, А. Луцкевіч, даў кароткі агляд і апісаньне багацьцяў Музэю, як і... цяжкіх варункаў яго існаваньня і разьвіцьця.

Дапаўняюць багаты зьмест кніжкі сем драбнейшых артыкулаў рознага зьместу, датычачыя пераважна беларускай культурнай мінуўшчыны.

Апошні аддзел „Гадавіка“—„Сярод кніг і часопісаў“—зьмяшчае тры артыкулы-рэцэнзіі. Два з іх — пяра Ул. С. — аб кніжцы М. Шчакаціхіна „Нарысы з гісторыі беларускага мастацтва“ і аб нарадзінах новай—мастацкай—беларускай музыкі; трэці—Хв. Ільяшэвіча — аб кніжцы праф. И. И. Лаппо „К исторіи русской старопечати“ — аб Віленскай друкарні Мамонічаў.

Трэба дадаць, што кніжка аздоблена яшчэ радам дасканалых рэпродукцыяў, ілюструючых найбольш цікаўныя экспонаты Музэю.

Як бачым, зьмест першае кніжкі „Гадавіка“—вельмі багаты і паважны. Таму трэба пажадаць яму шырокага пашырэньня сярод нашага грамадзянства, навет сярод вясковае інтэлігенцыі. Праўда, цана поўнага „Гадавіка“, навет зьніжаная блізу ніжэй выдавецкіх коштаў, усё-ж залішне высокая для дзіравага кішаня нашага сярэдняга чытача, асабліва з правінцыі. Але-ж—блізу ўсе важнейшыя артыкулы кніжкі выданы асобнымі адбіткамі, якія можна набыць надта танна (гл. абвестку у канцы №).

У заключэньне выразім шчырую падзяку ўраду Б. Нав. Т-ва і пажадаем, каб яно здабыла магчымасьць выдаваць гэтак сама свае працы штогодна. Такая-ж падзяка належыцца і Міністэрству Асьветы—за грашовую дапамогу, без якой, пэўне ж, Т-ва не дало-б сабе рады з такім каштоўным выданьнем.

Эс.



## Б. С. С. Р.

**Польскі пасол у Менску.** У Менск прыехаў пасол Польскай Рэспублікі п. Лукасевіч, якога гасьцінна прынялі сябры ўраду Б. С. С. Р. У гутарцы з прадстаўніком Беларускага Тэлеграфнага Агенцтва польскі пасол заявіў, што ў яго асобе прадстаўнік Польшчы ўпяршыню робіць афіцыяльную візыту ў сталіцы Беларускае Рэспублікі. Пасол вельмі рад, што наагул адносіны паміж Польшчай і СССР палепшыліся, але асабліва ён „усьцешыўшыся тым, што пабачыў і пачуў у Менску, пазнаёміўшыся, дзякуючы ветлівай прыязьні беларускага ўраду, з жыцьцём Беларусі дый з яе культурнымі дасягненьнямі“. „З вялізарнай цікавасьцяй, — заявіў у канцы пасол, — агледзіў я Беларускую Акадэмію Навук, Дзяржаўную Бібліатэку, Дзяржаўны Музэй і іншыя культурныя ўстановы“.

Зьявішча — запраўды-ж пацяшаючае. Можна толькі пажадаць, каб з такім самым „вялізарным інтарэсам і зацікаўленасьцяй“ адносіліся прадстаўнікі польскае ўлады да беларускіх культурных установаў у—Заходняй Беларусі.

## У Латвіі.

**Беларускія юбілеі.** Сакавіковы нумар „Белар. Школы ў Латвіі“, спозьнены крыху, як і яго папярэднік, з прычыны фінансавых труднасьцяў, пасьвячоны перад усім 15-ым угодкам абвяшчэньня незалежнасьці Беларусі. Апрача перадавіцы на гэту тэму падаецца апісаньне абходу Сьвята Незалежнасьці беларускімі арганізацыямі ў Рызе, з'арганізаванага супольнымі сіламі Белар. Навукова-Краязнаўчага Т-ва, Т-ва Беларускае Моладзі, Т-ва Бел. Вучыцялёў і наагул беларускага грамадзянства. Абход меў вельмі ўрачысты характар.

Той жа нумар часопісу горача адгукнуўся на 25-лецьце вучыцельскае працы грам. А. Радзько і 30-лецьце такое-ж працы грам. С. Сахарава.

**З працы Т-ва Беларускае Моладзі.** Жывая дзеяльнасьць Т-ва асабліва ярка выявілася ў сувязі з ладжаным міністэрствам асьветы ад 19. III да 1. IV „тыднем асьветы“. Таварыства наладзіла цэлы рад лекцыяў на правінцыі, якія былі прачытаны гр. гр. К. Езавітавым, К. Мяжэцкім, Я. Кудраўцавым, А. Рытавым, Ул. Гусарэвічам, Фр. Клагішам і Яз. Клагішам.

Пажадана было-б, каб і ў Заходняй Беларусі наладзіліся супольнымі сіламі ўсяго грамадзянства падобныя „тыдні“ ці „месяцы беларускае асьветы“. Ну, але на тое-ж існуюць хадэкі й камуністы, каб да гэткае акцыі недапусьціць!...

---

# Чытайце і пашырайце нашу газэту.

## У Паўн.-Амэр. Злуч. Штатах.

**Пісьмо з-за акіяну.** „Бел. Шк. ў Латвіі“ ў апошнім нумары надрукавала цікаўнае пісьмо аднаго з беларусаў у Чыкаго, у якім апісваецца жыцьцё нашых братоў у Амэрыцы. Тыя з беларусаў, якія маюць ужо правы амэрыканскіх грамадзян, прымаюць чыннае ўчасьце ў дзяржаўных справах, — прыкладам у выбарнай кампаніі і г. д. Прымалі яны ўчасьце і ў апошніх прэзыдэнцкіх выбарах, хаця нікога з беларусаў на выбаршчыкаў не выстаўлялі. Чыста беларускімі справамі займаюцца існуючыя тут беларускія арганізацыі, з якіх найбольш моцныя—дзьве: „Беларускі Нацыянальны Хаўрус у Злучаных Штатах“, які гуртуе эмігрантаў, не атрымаўшых яшчэ правоў грамадзян Злуч. Штатаў, і „Хаўрус Беларуска-Амэрыканскіх Грамадзян“, які аб'ядьнвае тых беларусаў, што гэныя правы маюць.

На 1933 год прэзыдыюм „Хаўрусу Беларуска-Амэрыканскіх Грамадзян“ складаецца з наступных асоб: старшыня — Ігнат Лабач, скарбнік—Пётра Яцкоўскі, сэкрэтар—Ян Івінскі. Бюро „Хаўрусу“—у Чыкаго; ягоны адрас: Whiterussian-Amerikan Citizens Organisation, 2623 Augusta Blrd, Chicago, Illinois. „Хаўрус“ маніцца распачаць друк бюлетэню ў англійскай мове аб жыцьці беларусаў у Амэрыцы.

Аўтар пісьма шле ад імя амэрыканскіх беларусаў прывітаньне беларусам у Заходняй Беларусі, у БССР і ў Латвіі.

---

# Палітычная хроніка.

## У Польшчы.

**Урачыстасьць у Варшаве.** 4 чэрвеня ў Варшаве ў каралеўскім палацы адбылася урачыстасьць у сувязі з прыймом улады Прэзыдэнтам Мосьціцкім на новае 7-лецьце.

## За граніцай.

**„Пакт чатырох“ падпісаны.** Пасьля доўгіх перагавораў і цэлага раду пераробак у тэксьце „пакту чатырох“ (Англіі, Італіі, Нямеччыны і Францыі) — акančальна апрацаваны тэкст падпісаны ў Рыме прадстаўнікамі дагаварыўшыхся вялікіх дзяржаў. Умову гэту павінны яшчэ зацьвярдзіць парляманты гэтых дзяржаў.

**Троцкі пагадзіўся з Сталіным.** Газэты даносяць, быццам Сталін „памілаваў“ Троцкага, ды той хутка мае вярнуцца ў СССР, дзе мае атрымаць становішча рэктара Комуністычнае Акадэміі. Таксама „памілаваны“ быццам ужо і два іншыя старыя комуністы — Зіноўеў і Каменеў, якія былі „ў апале“ за опозыцыю.

# Новазаложаныя бібліатэкі-чытальні Т-ва Беларускай Асьветы.

У мінулым месяцы высланы камплекты кніжак і адчынены бібліатэкі-чытальні Т. Б. А. у ніжэй пералічаных пунктах пад кіраўніцтвам наступных асобаў:

1. У в. Есьмановічах, Гарадоцк. гм. Маладзечанск. пав. Адказны кіраўнік Калюбака Язэп.

2. У в. Адамаўцы тэй жа гм., таго-ж пав.—адк. кіраўнік Рыбінскі Фадзей.

3. У фольв. Мяхоўшчына тэй-жа гм., таго-ж пав.—кіраўнік Сымановіч Мікалай.

4. У в. Субачы Крывіцк. гм., Вялейск. пав.—кіраўнік Сьцебурака Кастусь.

У бліжэйшы час маюць быць адчынены бібліатэкі-чытальні — пад адказнасьцяй ужо зацьверджаных кіраўнікоў — у наступных пунктах:

У в. Гранічы, гм. Краснае (над Ушай), Маладзеч. п.—кіраўнік Герасімчык Макар.

У в. Сечкі, гм. Лебедзева, Маладз. п.—кіраўнік Божка Антон.

У в. Рэчкі Даўгінаўск. гм. Вялейск. п.—кіраўнік Клімантовіч Язэп.

У в. Салоная Даўгінаўск. гм. Вял. п.—кіраўнік Курьяновіч Янка.

У в. Кульгаі Празароцкай гм. Дзісьненск. пав.—кіраўнік Забела Янка.

Нажаль, справа закладаньня бібліатэкаў-чытальняў затрымоўваецца тымі перашкодамі, якія ставяць на шляху культурна-асьветнай працы нашага Т-ва некаторыя гмінныя самаўрадавыя ўстановы, адмаўляючыся даваць вымаганае старостамі пасьведчаньне подпісаў адказных кіраўнікоў на іх заявах Т-ву. Гэты дзіўны, каб не сказаць шмат мацней, байкот беларускай культурна-асьветнай пляцоўкі з боку органу мясцовага самаўраду, выбранага галасамі беларускага насяленьня, павінен быць нарэшце зламаны шляхам рашучага пратэсту з боку сьведамых грамадзян-выбаршчыкаў на мясцох. Бо-ж запраўды — недапусьціма, каб легальная, больш таго: прызнаная карыснай вышэйшымі ўладамі, установа сабатавалася рознымі „засьцянковымі" гміннымі „палітыкамі", якія, відаць, добра разумеюць, што ўся іх сіла—у цемры народнай, што сьведамы і асьвечаны выбаршчык для іх—труна... Але пакрыўджаным гэтымі шкоднікамі асобам і раёнам няма чаго падаць духам: Т-ва знойдзе спосаб так ці інакш выканаць усе патрэбныя формальнасьці.

## Перачытаўшы газэту — перадай другому.

—?—?—

Кацянём чарапае дождж у дахі —
Кіцка мае сумныя вочы сягоньня —
У паветры дрыжаць васеньнія ўзмахі,
У туманным возеры места тоне.
Завесіў дожджык на тварах —
траур...
Па бруку скача смуткам шэрым...
Ідзем у садзе ля зьмягшых траваў —
У Вясну адцьвіўшую больш ня верым...

1932 І—ч.

## Паштовая скрынка.

**Сябра М—ка!** Вашы вершы будуць надрукаваны. Ахвотна прыймаем вас у наш „Куток". Пішыце. Працуйце. Цісьнем вашу руку.

**Сябра М. Крывіцкі!** Вершы вашыя патроху будзем выкарыстоўваць! Прысылайце яшчэ. Працуйце над сабой. Чытайце і пішыце. Можа маеце якія запытаньні. Ахвотна адкажам.

Атрыманы грошы на падпіску ад гр. гр. **Лейбы Салаўя**—3 зл. 50 гр.; **Пётры Олешкевіча** — 2 зл. 20 гр.; **Пётры Багдана**—2 зл.; **Сьцяпана Даніілевіча**—2 зл. 50 гр.



Рэдактар: М. СІНЯЎСКІ.—Выдавец: ТБА. Друкарня Я. Левіна, Вільня, Нямецкая 22